**СОНЦА:**

Усход, захад, даўжыня дня:

| | |
|---|---|
| Мінск | — 5.27, 21.03, 15.36; |
| Віцебск | — 5.11, 20.59, 15.48; |
| Магілёў | — 5.16, 20.52, 15.37; |
| Гомель | — 5.21, 20.42, 15.21; |
| Гродна | — 5.44, 21.16, 15.31; |
| Брэст | — 5.50, 21.12, 15.22. |

**МЕСЯЦ:**

Першая квадра 5 жніўня.

**ІМЯНІНЫ:**

Марыі Магдаліны, Фокі, Карніла;
Дамініка, Пратаза.

# ЗВЯЗДА

4 ЖНІЎНЯ 1992 г.
аўторак, № 153 (21931)

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1 рубель


## РОЗГАЛАС

### ДАРОСЛЫЯ, НЕ ГУЛЯЙЦЕ З ЗАПАЛКАМІ

У нашай газеце расказвалася ўжо пра лясныя пажары, якія палаюць практычна па ўсёй Беларусі і прынялі пагражальныя памеры. На жаль, надзвычай спякотнае сёлета сонца і агонь з дапамогай людзей, ці, хутчэй, наадварот — людзі з дапамогай першых працягваюць тварыць сваю чорную справу. Як паведамілі ў Мінлясгасе рэспублікі, толькі за тры апошнія дні (пятніцу, суботу і нядзелю) зафіксавана 225 выпадкаў, згарэла яшчэ 1.000 гектараў. Буйныя пажары пракаціліся па Бялыніцкім лясгасе (больш як 200 га), Лідскім (каля 300 га). Усяго ж сёлета адпаведнай службай Мінлясгаса «ўзята на ўлік» 4.600 пажараў, якія вынішчылі 4.550 лясных гектараў. У матэрыяле, які быў надрукаваны ў «Звяздзе» ў суботу, прыводзіліся, адпаведна, 4.000 пажараў і 3.500 га. Як бачна, сумны рахунак расце шпаркімі тэмпамі.

У нядзелю позна вечарам моцны пах гарэлага адчуваўся практычна ва ўсім Мінску. Як растлумачылі ў Мінлясгасе, гарэлі ў многіх месцах лясы, якія знаходзяцца на ўтрыманні Мінгарвыканкома, або мінскай лесапаркавай зоны.

Такім чынам, сітуацыя яшчэ больш абвастраецца, яна становіцца амаль некіруемай. У той жа час сіноптыкі па-ранейшаму нічога не абяцаюць. Як жа дзейсна дапамагчы нашаму зялёнаму сябру?

Нагадаем: аблвыканкомы прынялі рашэнне аб забароне наведванняў лесу, прычым адпаведны штраф вызначаны ў размеры да 500 рублёў. Тым больш варта папярэдзіць аматараў пасядзець ля вогнішча. Гэта, улічваючы сітуацыю, проста злачынна. Мінлясгас, грамадскасць заклікаюць: дарослыя, не гуляйце з запалкамі!

У гэту суботу павінен быў адкрыцца паляўнічы сезон, але, відаць, адкрыцця так і не адбудзецца. У Мінлясгасе праінфармавалі, што заўтра павінны прыняць наконт гэтага адпаведнае рашэнне.

Да якога часу будуць дзейнічаць забароны? Да асобнага распараджэння, а яно з'явіцца толькі пасля таго, як пройдуць дажджы.

Карацей, хай дапаможа нам Неба.

**(Кар. «Звязды»).**

### УЖО ГРАНІЦА...

**З 1 жніўня 1992 г. уступіў у сілу Часовы пагранічны дагавор паміж Беларускай чыгункай і Міністэрствам шляхоў зносін Расійскай Федэрацыі. У ім агавораны парадак абслугоўвання цягнікоў, умовы іх руху, парадак дзеянняў пры здарэннях, час, які затрачваецца на перадатачных станцыях, а таксама правілы карыстання грузавымі вагонамі і вагонамі пасажырскага парка, адказнасць абодвух бакоў за страты, умовы карыстання чыгуначнымі станцыённымі канструкцыямі і службовымі памяшканнямі на пагранічных перадатачных станцыях.**

**Ганна ЛАГУН.**

### ВА ЎРАДЗЕ РЭСПУБЛІКІ

**Стабілізацыі работы прамысловасці Беларусі ў першым паўгоддзі г. г. у значнай ступені садзейнічала распараджэнне Савета Міністраў ад 25 мая 1992 г. № 530 аб дазволе дзяржаўным прадпрыемствам, аб'яднанням і арганізацыям ажыццяўляць у маі—ліпені 1992 г. водпуск прадукцыі за межы рэспублікі пры ўмове выканання імі дагавораў па ўнутрырэспубліканскіх пастаўках.**

**Улічваючы, што пакуль не вырашана канчаткова пытанне аб правядзенні ўзаемазалікаў з Расіяй, а на прадпрыемствах ёсць запасы нерэалізаванай прадукцыі, Савет Міністраў прыняў рашэнне прадоўжыць тэрмін дзеяння гэтага распараджэння да канца бягучага года.**

**Служба інфармацыі Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь**

### УНІВЕРСІТЭТ ГЛЯДЗІЦЬ У РЫНАК

У Беларускім дзяржаўным эканамічным універсітэце завяршыліся ўступныя экзамены. Згодна з планам 900 юнакоў і дзяўчат прыняты на першы курс стацыянара.

Зараз на 7 факультэтах новага універсітэта стацыянарна і завочна займаюцца больш за 12 тысяч студэнтаў. БДЭУ рыхтуе спецыялістаў для работы ў галіне міжнародных эканамічных адносін, банкаўскай і страхавой справы, а таксама фінансістаў, менеджэраў, камерсантаў, бухгалтараў. Падрыхтоўка іх прадугледжвае чатыры стадыі вучобы — агульнатэарэтычную, гуманітарную, агульнанавуковую, спецыяльную.

Дастаткова высокі ўзровень выкладчыцкіх кадраў дазволіў перайсці сёлета на двухузроўневую сістэму навучання, якая існуе ва ўсім цывілізаваным свеце, — на падрыхтоўку бакалаўраў і магістраў эканамічных навук.

**Анатоль КУЛЯШОЎ.**

### АПАЗІЦЫЯ: ГАРАЧАЕ ЛЕТА 92-га

Відаць, ужо ўсе змірыліся з тым, што летам народным дэпутатам, як і школьнікам, патрэбны канікулы, каб адпачыць ад невыносна цяжкага сядзення за сталамі і картамі. За выключэннем некаторай часткі саміх дэпутатаў... На днях прайшло пасяджэнне парламенцкай апазіцыі. Як паведаміў карэспандэнту БелаПАН прадстаўнік апазіцыі Алег Трусаў, на пасяджэнні парламентарыі выказалі свае адносіны да заключаных паміж Беларуссю і Расіяй ваенных пагадненняў. У прыватнасці, яны сышліся на думцы, што некаторыя пункты пагадненняў не адпавядаюць інтарэсам рэспублікі і таму яны будуць хадайнічаць, каб парламент не ратыфікаваў іх.

Таксама было вырашана ўнесці некаторыя прапановы і папраўкі ў апошні варыянт Канстытуцыі рэспублікі пасля яго апублікавання.

Акрамя таго, народныя дэпутаты, па словах Алега Трусава, прыйшлі да высновы, што пры цяперашняй раскладцы сіл ва ўрадзе прэзідэнта выбіраць пакуль рана — надта вялікая верагоднасць таго, што былыя партапаратчыкі «прасунуць» свайго чалавека.

**Яўген МЕНАЎ.**

### СПРАВА БЫЛА Ў ТУРЦЫІ

Мяркуючы па зводцы Упраўлення ўнутраных спраў на транспарце, у авіяпасажыраў рэйса Стамбул—Мінск-2 маглі быць буйныя непрыемнасці. Экіпаж самалёта ў момант вылету з аэрапорта Стамбула 24 ліпеня ў 1 гадзіну 05 мінут па паводзінах лайнера вызначыў перагрузку, што парушала цэнтроўку. Пасля прыбыцця ў порт назначэння было праведзена кантрольнае ўзважванне багажу. Агульная вага склала 10.175 кг. У загрузачнай ведамасці — 8.450 кг. Такім чынам, лішнімі аказаліся 1.715 кг. Па словах намесніка начальніка аддзела ўнутраных спраў на паветраным транспарце Міхаіла Сянкевіча, з якім гутарыў карэспандэнт БелаПАНа, перагрузка магла прывесці да авіякатастрофы, але поўнае расследаванне таго, што адбылося, магчыма толькі пры садзейнічанні МЗС.

За некаторымі падрабязнасцямі прыйшлося звярнуцца да першага намесніка начальніка Упраўлення грамадзянскай авіяцыі Алега Рыжыкава. Алег Васільевіч адзначыў, што «шум паднялі дарэмна, ніякай перагрузкі не было, і пасажыраў пратрымалі ў аэрапорце дзевяць гадзін без падстаў, за што заказчык стамбульскага рэйса — нейкая прыбалтыйская фірма — пагражае падаць у суд».

Не журналісту меркаваць, хто мае рацыю, а хто не, але не сакрэт, што нашы грамадзяне, якія вяртаюцца з-за мяжы, не супраць вывезці іхнія супермаркеты і шопы, а самалёты такія маленькія...

**Віктар ФЕДАРОВІЧ, БелаПАН.**



АКТУАЛЬНА!

## «Мяняла»—прафесія перспектыўная

**Немілагучнае для нашага вуха і несімпатычнае слова «мяняла» сёлетнія восень і зіма абяцаюць «акультурыць» і напоўніць новым зместам. Перш за ўсё, яно стане прывабным для пачынаючых і патэнцыяльных прадпрыемцаў. Таму што, як толькі парламент канчаткова прыме Закон Рэспублікі Беларусь аб імянных прыватызацыйных чэкавых кніжках (ён ужо разгледжаны ў першым чытанні), у нас узнікне патрэбнасць у арганізацыі і развіцці цэлай галіны спецыфічных пасрэдніцкіх паслуг на камерцыйнай аснове.**

— Што гэта за службы і для чаго патрэбныя? — перапытвае начальнік Упраўлення прыватызацыі дзяржмаёмасці Беларусі Валянціна Халымская. — Для таго, каб ператварыць нашы чэкавыя кніжкі або чэкі, калі парламентарыі выберуць усё ж такую форму, у рэальныя, а галоўнае, здольныя прымнажацца, каштоўнасці. Названы закон цяпер дапрацоўваецца сіламі Вярхоўнага Савета, урада, нашага камітэта, Нацыянальнага і Ашчаднага банкаў. Яго канцэпцыя задавальняе ўсе бакі, а вось многія дэталі і тонкасці трэба будзе выдзеліць больш канкрэтна і дакладна. Напрыклад, вызначыць, якая «сума» належыць кожнаму з нас, колькі часу гэтыя разавыя «грошы» будуць у хаду, што за іх зможа набыць чалавек, на якіх умовах укласці ў тое ці іншае прыватызуемае прадпрыемства або прадаць і г. д. Але якой бы ні была канчатковая рэдакцыя дакумента, ужо цяпер ясна, што працэс будзе развівацца па тых жа псіхалагічных, жыццёвых і іншых законах, што і ў Польшчы, Чэхаславакіі, іншых былых сацыялістычных краінах. Частка насельніцтва, як правіла, меншая, абавязкова захоча набыць за свой чэк з даплатай наяўнымі або без яе нейкую маёмасць — жыллё, магазінчык, пральню. Частка ўкладзе яго ў тую ці іншую прыватызуемую вытворчасць. Напрыклад, у акцыянернае таварыства. Але асноўная маса, хутчэй за ўсё, будзе імкнуцца атрымаць грашовую кампенсацыю за сваю долю агульнанацыянальнага набытку, права на які замацоўвае за кожным з нас чэкавая кніжка. Частку ўсёй гэтай работы з чэкавымі «грашыма» і іх уладальнікамі возьме на сябе фондавая біржа, якая спецыялізуецца на каштоўных паперах, і ўжо дзеючыя брокерскія канторы. Аднак спатрэбяцца і два-тры дзесяткі так званых інвестыцыйных фондаў або спецыяльных мяняльных кантор, якія будуць прымаць у насельніцтва чэкі, у нешта ўкладваць іх або перапрадаваць (у тым ліку і замежным купцам) і па меры атрымання прыбытку расплачвацца са сваімі кліентамі.

Сусветны вопыт паказвае, што лепш за ўсё з гэтай работай спраўляюцца камерцыйныя структуры. Наш урад, Камітэт па кіраванню дзяржмаёмасцю думаюць гэтаксама і ніякіх дзяржаўных арганізацый ствараць не збіраюцца. Не ўпусціце свой шанц, ужо вопытныя прадпрыемцы і навічкі. Хоць спецыялісты, занятыя шліфоўкай Закона аб чэкавых кніжках, яшчэ канчаткова не ўстанавілі тэрміну іх выкарыстання ў рэспубліцы і трансфармацыі ў нешта іншае. Ужо вядома, што будзе ён значна большым, чым, напрыклад, у Расіі, якая адвяла на гэта ўсяго 3 гады. У нас плануецца 10. А 10 гадоў стабільнай, цікавай і прыбытковай работы — ці ж гэта не ўдача на фоне пагражальнага беспрацоўя?

**Ганна ГЛАДЫШАВА. БЕЛІНФАРМ.**

УРАДЖАЙ-92

**У паўднёвых раёнах Брэсцкай вобласці поўным ходам ідзе ўборка збожжавых.**

**Умела і зладжана працуюць на жніве ўсе дзесяць экіпажаў у саўгасе «Мухавец» Брэсцкага раёна. Тэхналагічны ланцужок — поле — зерняток — не дае збояў. Працуюць увесь светлавы дзень, стараючыся не страціць ніводнага каштоўнага кілаграма зерня. Бо сёлетняе засушлівае лета не апраўдала надзей хлебаробаў: ураджайнасць у «Мухаўцы» складае толькі 24—25 цэнтнераў з гектара. Тым не менш гаспадарка ў ліку першых у раёне заканчвае здачу збожжа дзяржаве, плануючы прадаць 520 тон.**

**НА ЗДЫМКУ: Ірына КОНАСАВА ў дні ўборкі прывозіць і раздае механізатарам абеды прама ў полі.**

**Фота Э. КАБЯКА. (БЕЛІНФАРМ).**

### На першым месцы— наёмныя работнікі

**Вылучана ініцыятыўная група для стварэння Дэмакратычнай партыі працы Беларусі (ДППБ), якая будзе абараняць перш за ўсё інтарэсы наёмных работнікаў, працягваючы палітычнымі метадамі справу прафсаюзнага і працоўнага руху.**

**Новая партыя збіраецца выступаць за раўнапраўе ўсіх форм уласнасці, стварэнне народных прадпрыемстваў, правядзенне гуманнай сацыяльнай палітыкі ў адносінах да ўсіх працоўных і сацыяльных груп грамадства.**

**Ініцыятарамі стварэння ДППБ выступілі савет прафсаюзаў працаўнікоў аўтамабільнага і сельскагаспадарчага машынабудавання, прафком Мінскага падшыпнікавага завода, савет прафсаюзаў працаўнікоў радыёэлектроннай прамысловасці, прафком Гомельскага радыёзавода і іншыя.**

### З МІЛЬЁНАМІ ВЕСЯЛЕЙ

Толькі што мы расказалі аб перспектывах пошуку золата на тэрыторыі Беларусі — і вось маем новае паведамленне. У Жабінкаўскім раёне пошукава-геалагічная група займалася даследаваннем тэрыторыі, дзе, на думку вучоных, ёсць бурштын. Неўзабаве пасля гэтага з'явілася распараджэнне Савета Міністраў Беларусі аб вылучэнні дзяржаўнаму даследчаму геалагічнаму прадпрыемству для правядзення больш дэталёвых разведвальных работ на тэрыторыі Жабінкаўскага і суседніх раёнаў трох мільёнаў рублёў. З мільёнамі справа, вядома, пойдзе весялей, хоць на сённяшні дзень мы пакуль не можам казаць аб выяўленых бурштынавых радовішчах. Гутарка ідзе толькі аб іх пошуку.

## Жменя сонечных промняў

*Сёння Янку Брылю—75.*

**Нават калі пазбавіць яго ўсіх «афіцыяльных» тытулаў, ён усё роўна застанецца народным пісьменнікам. Народным — па сутнасці. Узгадайма раман «Птушкі і гнёзды», бліскучыя аповесці, апавяданні, навелы, эсэ, лірычныя мініяцюры... Ва ўсіх творах пісьменніка — «свабода аўтарскай прысутнасці».**

Пра яго творчасць напісана нямала. Брыля называюць класікам беларускай літаратуры, тонкім псіхолагам і філосафам, майстрам трапных афарызмаў і свежых метафар, паэтам у прозе. Кожнае з гэтых вызначэнняў, безумоўна, справядліва, але... «Калі мяне, хвалячы, называюць лірыкам, я адчуваю нейкую прыкрасць: што я вам — тэнар які, бяздумны і саладжавы?..» (з запісаў «Чытаючы апавяданні Чорнага»).

Пра кампліменты — амаль з выклікам. Чалавек, здольны іранічна ставіцца да слоў пахвальбы, — моцны і мудры. Але ж іронію здаўна называюць сарамлівасцю чалавецтва. Такая натуральная, традыцыйна беларуская рыса характару — не з задавальненнем, а з сорамам сустракаць узвышаныя словы ў свой адрас... Пра Брыля гавораць як пра класіка, а ён з'едліва спыняе: «У рускіх ёсць **писатель большой** і **писатель великий,** а ў нас — толькі **вялікі.** А то яшчэ чуў ад адной захопленай ціхоні, што N — «вельмі вялікі пісьменнік».

Хоць так наробім сабе болей класікаў!..» (з запісаў цыкла «Хлеб надзённы»).

Галоўны суддзя пісьменніка, канешне, не літаратурны крытык. Магчыма, не чытач і не час, — а ён сам?..

Скажу шчыра: рыхтуючыся пісаць гэтыя нататкі, перачытала многія Брылёвы творы — і адклала ўбок ужо напісаныя чарнавікі з прыгожымі кампліментарнымі сказамі. Падумалася: наўрад ці маю на гэта маральнае права — маіх равеснікаў можна лічыць «трэцім пакаленнем», мы амаль утрая маладзейшыя. Таму, здаецца, правільней будзе расказаць менавіта пра чытацкія ўражанні (можа, пра творца толькі так і трэба гаварыць — з лейтматывам «Пісьменнік у маім жыцці»?).

...Калі пачала чытаць творы Брыля ўпершыню, адразу неяк унутрана страпянулася. Гэта было адкрыццём не толькі цікавага пісьменніка, але і адкрыццём... роднай мовы. Спачатку, магчыма, мовы: атрымлівала ні з чым не параўнаную асалоду ад прачытанага. Які цуд: «мляўкі смак халоднай, нішчымнай заціркі», «акунь шалпатаўся ў атаўцы»... Так проста, немудрагеліста — і так хараша! Я гадавалася ў вёсцы і чула менавіта такую, смачную народную мову, але ж у многіх выпадках з друкаванага беларускага слова знікала нешта невытлумачальнае — як вітамін з ежы. А тут — ажно дух заняло: чысцюткая мова! Мае памкненні былі па-дзіцячаму дзёрзкія: толькі паступіла на журфак, хацелася і самой пісаць гэтак жа натуральна, дасканала. Каб лепш адчуць, асэнсаваць Брылёву мову, у асобны сшытак выпісвала трапныя, дакладныя словы, прыслоўі, назіранні, роздумы. Хіба не раскоша: «На клумбе — згорбілася і расставіла рукі, як бабуля над градамі, старая, няшчасная яблыня» («Птушкі і гнёзды»). Можна бясконца захапляцца дзівосамі нашай мовы і амаль чарадзейным майстэрствам пісьменніка. А ён і сам прызнаецца:

«Гэта нармальна, што ў мяне яно ёсць, было і будзе — адчуванне роднай зямлі, народа, мовы, — нягледзячы ні на што. Я быў рады, знайшоўшы гэтую сцежку ў юнацтве, яна мяне вядзе і сёння, даволі часта грэючы і адаграваючы запаветным цяплом».

...З часам дзёрзкасць, канешне, прайшла, а сшытак застаўся. Калі пасля універсітэта ехала працаваць у «раёнку», узяла з сабой дзённікі Талстога і сшытак выпісак з Брыля. Хацелася спасцігаць мудрасць жыцця і вучыцца мове. Адно— праз другое. «Трэба змагацца за самога сябе з самім сабою»...

Пераканана: хто трапіў на Брылёву сцежку ў юнацтве, ужо не збочыць са шляху. «Ты пачынаешся тады, калі ніхто і ніштo не дапамагае табе быць добрым ці дрэнным, калі ты робіш выбар сам».

...І зараз той сшытак дзесяцігадовай даўнасці — на маім пісьмовым стале. Зноў з задавальненнем перачытваю творы Янкі Брыля, у якіх не жменя— цэлыя ахапкі сонечных промняў. Яны нясуць адчуванне радасці жыцця, любоў да Бацькаўшчыны і матчынай мовы, прымушаюць думаць і суперажываць.

Сёння так неабходна грамадству мудрае пісьменніцкае слова. І асабліва — «трэцяму пакаленню»...

**Таццяна ПАДАЛЯК.**

УДАКЛАДНЕННЕ

### Новыя мытныя правілы хутка будуць уведзены

Пасля публікацыі ў «Звяздзе» за 1 жніўня справаздачы з прэс-канферэнцыі ў Саўміне рэспублікі на Дзяржкаммытню Беларусі абрушыўся шквал тэлефонных званкоў. Прычынай стала фраза ў «Звяздзе»: «Цяпер грамадзянін будзе мець права ўзяць з сабой за мяжу 5 тысяч рублёў (без растраты іх там), 500 долараў ЗША і падарункаў і сувеніраў на 5 тысяч рублёў». Многія, хто яе прачытаў, вырашылі, што гэтыя правілы ўжо дзейнічаюць. Удакладняем: новыя правілы — справа хуткага будучага. Паводле нашых даных, яны будуць уведзены прыкладна ў канцы жніўня пасля зацвярджэння іх Саўмінам.

**Леанід ЛАХМАНЕНКА.**

## Залаты «ўраджай» Віталя Шчэрбы

**Такога сусветны алімпійскі рух яшчэ, здаецца, не ведаў. На адных Гульнях адзін і той жа спартсмен заваяваў шэсць (!) залатых медалёў. Раней яго па пяць разоў узнімаліся на п'едэстал гонару на Алімпіядах легендарныя амерыканцы Марк Спітц (плаванне) і Эрык Хайдэн (канькабежны спорт), ёсць некалькі спартсменаў, што маюць і больш залатых узнагарод, аднак яны атрымалі іх на дзвюх Алімпіядах.**

**Той жа, хто здзейсніў гэты сапраўды спартыўны подзвіг — наш з вамі зямляк. Размова ідзе пра мінскага гімнаста Віталя Шчэрбу.**

Чытачы ведаюць ужо, што зборная Садружнасці Незалежных Дзяржаў па спартыўнай гімнастыцы з вялікай перавагай над сапернікамі выйграла спачатку камандны турнір. Пасля вядучыя спартсмены такіх гімнастычных дзяржаў свету, як Кітай, Японія, Германія, Злучаныя Штаты Амерыкі, вядома ж, СНД, выявілі мацнейшага ў гімнастычным мнагабор'і — самым ганаровым і складаным турніры. Віталь Шчэрба і тут, як сапраўдны лідэр аб'яднанай каманды Садружнасці, праявіў сябе з найлепшага боку. Гэта быў ягоны другі медаль вышэйшай пробы (нагадаем чытачам, што на Гульнях у Барселоне ўпершыню на спаборніцтвах такога рангу пераможцам і прызёрам уручаюцца медалі, так бы мовіць, з натуральных металаў — золата, серабра і бронзы). Прадстаялі яшчэ фіналы на асобных снарадах, і, па выніках выступлення ў мнагабор'і, Шчэрба атрымаў права весці барацьбу за ўзнагароды ў пяці фіналах з шасці.

У вольных практыкаваннях, у якіх, дарэчы, Віталь выступае даволі паспяхова, яго напаткала няўдача: з вынікам 9,712 бала наш зямляк уступіў не толькі чэмпіёну Алімпіяды—Лі Сяо Шану з Кітая, а і яшчэ двум сапернікам, апынуўшыся, такім чынам, на чацвёртым месцы. Іншы разгубіўся б, пачаў бы нервавацца... А вось Шчэрба наадварот — сабраў у кулак нервы, праявіў настойлівасць і бліскучую волю да перамогі. У практыкаваннях на кані, кольцах, брусах і ў апорным скачку ён не пакінуў сваім сябрам па зборнай СНД і сапернікам з іншых краін ніякіх шанцаў. Такім чынам, шэсць залатых алімпійскіх узнагарод атрымалі мінскую прапіску!

Віталю Шчэрбе — дваццаць гадоў. Ён стаў — без перабольшання — каралём сусветнай спартыўнай гімнастыкі.

На жаль, больш узнагарод вышэйшай пробы прадстаўнікі Рэспублікі Беларусь за апошнія тры дні ў Барселоне не атрымалі. Хоць, калі сказаць шчыра, разлічваць на каго ў нас было...

Яўнымі лідэрамі лёгкаатлетычнага сезона-92 паехалі ў Іспанію беларускія кідальнікі кап'я і молата Наталля Шыколенка і Ігар Астапковіч. Але і Шыколенка, і Астапковіч заваявалі «ўсяго» толькі сярэбраныя медалі.

Не спраўдзілі нашы спадзяванні і весляры-«акадэмікі». З трынаццаці пасланнікаў Беларусі толькі двое — Алена Хлопцава і Кацярына Хадатовіч вяртаюцца на радзіму з узнагародамі — яны сталі бронзавымі прызёрамі ў складзе чацвёркі ў акадэмічным веславанні. Больш таго, гэта — адзіны поспех весляроў СНД наогул.

НАВЕЙШАЯ ГІСТОРЫЯ. УСПАМІНЫ І РОЗДУМ

# Міхаіл ЗІМЯНІН: «ПАМЫЛКІ ПАЧАЛІСЯ НЕ СА СТАЛІНА, ІХ АДЛІК ВЯДЗЕЦЦА З ЛЕНІНА»

(Працяг. Пачатак у №№ 150—152).

**— Няўжо і вы лічыце, што ва ўсіх грахах камуністычнай сістэмы вінаваты толькі адзін Сталін?**

— На жаль, памылкі пачаліся не з яго, а з Леніна. Па-першае, Ленін дазволіў сабе захапіцца ў ходзе развіцця партыі, унутрыпартыйнай барацьбы ў РСДРП логікай канфрантацыі і ішоў ёю да дваццатых гадоў. Успрыняўшы і абараняючы марксісцкі тэзіс аб дыктатуры пралетарыяту, ён выключаў варыянт эвалюцыйнага грамадскага развіцця, пераканаўча пацверджаны вопытам заходняй дэмакратыі, што таксама прайшла праз рэвалюцыі. Ён не разумеў тады, што сусветная сацыялістычная рэвалюцыя зусім не з'яўляецца неабходнай.

Паддаўшыся ілюзорнай ідэі Маркса аб перманентнай рэвалюцыі, Ленін прытрымліваўся яе аж да перыяду грамадзянскай вайны і інтэрвенцыі, калі па неабходнасці пайшлі на стварэнне Камуністычнага Інтэрнацыянала і ў той жа час зыходзілі з перспектывы перамогі сацыялістычнай рэвалюцыі на Захадзе. Але яна аказалася нерэальнай. Дарэчы, гэта памылковая вера зусім не перашкаджала Леніну геніяльна кіраваць сацыялістычнай рэвалюцыяй у Расіі, якой ён яе лічыў, і грамадзянскай вайной, а потым пераходам да мірнага будаўніцтва.

Такім чынам, першая памылка Леніна — выключэнне эвалюцыйнага шляху, выбар шляху канфрантацыйнага, які прывёў да таго, што савецкі лад быў адрынуты капіталістычным захадам як варожы, агрэсіўны, паколькі існавала трацкісцкая тэорыя сацыялістычнай рэвалюцыі, да пары да часу ўспрынятая і Леніным і толькі потым вельмі дыпламатычна перакроеная, перайначаная ім жа... Але ўсё роўна кляймо камуністычнай дыктатуры так і засталося за нашай краінай. І цяпер Бжазінскі смяецца, маўляў, вось і скончылася дыктатура камуністаў, камунізм пацярпеў крах... Але ж у нас камунізму не было і ў паміне!

Ідэя самога камунізму ў прынцыпе высакародная, гэта безумоўна. Не можа будучыня складацца з улады грашовых мяшкоў і безладдзя мільярдаў жабракоў... Ніхто не ведае, як будзе называцца наступны грамадскі лад. Тое, што Маркс назваў камуністычным і што потым ажыццявілася ў выглядзе так званай тэорыі навуковага камунізму — гэта блеф, а не тэорыя, не навука. Як навукі яе няма, ёсць сума ідэй, выказаных, нагавораных, складзеных у выглядзе канцэпцый, дактрын, ёсць усялякае глупства, што напісалі нашы правадыры і тэарэтыкі. А фактычна можна гаварыць толькі пра нейкія наметкі... На жаль, тэорыя навуковага камунізму дагэтуль так і не створана.

І народ наш гэтай псеўдатэорыі не ўспрыняў, ён змагаўся пад лозунгамі сацыялістычнай рэвалюцыі: за зямлю, за волю, за лепшую долю, за мір — пад гэтымі лозунгамі Ленін прывёў яго да перамогі рэвалюцыі і ўсталяваў гэтую перамогу. І народ Леніну верыў і ішоў за ім. А потым усё гэта разарвалі, растапталі, ператварылі пры Сталіне ў рэжым сапраўды развітога насілля, у значнай меры падарваўшага народную веру ў справядлівасць, абяскровілі ў выніку велізарных маштабаў тэрору. Дагэтуль нам не вядомы сапраўдныя яго маштабы. І ўсё ж народ захаваў гэтую веру і з ёю перамог у вайне з фашызмам. Выйграць такія бітвы адным насіллем і тэрорам, як спрабуюць паказаць сёння некаторыя «гісторыкі», нельга, немагчыма. Не, людзі верылі ў сваю краіну, абаранялі сваю радзіму, сваю Айчыну.

Наогул, вось першая памылка Леніна — усталяванне канфрантацыйнага шляху. Памылка Леніна і партыі.

Другая памылка — гэта адзяржаўленне ўсіх і ўсяго. У выніку атрымалася тое, што называецца дзяржаўным сацыялізмам — варыянт, які нельга прызнаць аптымальным. Так, ён працаваў, ён зрабіў многае, гэты варыянт, але ён быў не ідэальны, ён не быў аптымальным і прынёс краіне, на жаль, не толькі пэўныя выйгрышы, але і мноства выдаткаў, дэфармацый, пакут для народа.

У выніку дзяржаўнай арганізацыі кіравання сацыялізмам сама партыя з-за няздольнасці дзяржавы справіцца са сваімі функцыямі — забяспечыць развіццё эканомікі на прынцыпах самаруху — вымушана была ўзяць на сябе неўласцівыя ёй абавязкі.

Трэцяя памылка — гэта ўвядзенне жудаснага аднадумства. Рэзалюцыя аб адзінстве партыі на X з'ездзе была, канешне, буйной памылкай. Яна ўзаконіла потым падаўленне свабоды думкі, свабоды волі, самадзейнасці ў партыі, гэта, паўтараю, адна з карэнных памылак Леніна. У многім у выніку яе сёння і адвярнуліся ад КПСС.

Фактычная бюракратызацыя партыі, дакладней, яе кіраўніцтва, дэфармавала кіраванне партарганізацыямі. Панавалі невуцтва, некампетэнтнасць, неразуменне сапраўдных, глыбокіх унутраных спружын развіцця чалавечых думкі, розуму, годнасці, прыстойнасці.

**— А што вы думаеце пра фактычную забарону царквы, веры, распачатую менавіта з падачы Леніна?**

— Што датычыцца веры, дык ператварэнне партыяй любой веры ў недапушчальную з'яву для камуніста, у нешта злачыннае — буйнейшая памылка Леніна і КПСС. Веру ў людзей забіраць нельга.

Да таго, як партыя скончыла сваё існаванне, я 52 гады правёў у яе радах. Але ніколі за гэты час не выступаў з антырэлігійнымі прамовамі. Ніколі і нідзе. І не пісаў.

Зірніце на божы свет вакол нас — што мы пра яго ведаем? Так, нам вядомы мільярды зорак, шматлікія сузор'і, чорныя дзіркі і яшчэ, і яшчэ, і яшчэ. Але ўсё роўна зададзімся пытаннем: а што мы ведаем пра Сусвет у цэлым? Што можам сцвярджаць пра яго з упэўненасцю? Наша веданне, на жаль, даволі абмежаванае. Я зусім не хачу выступаць перад вамі ў ролі нейкага містыка, я лічу — Сусвет пазнавальны ў пэўных межах на кожнай ступені грамадскага развіцця, навукі і тэхнікі, і ўсё роўна ў аснове сваёй ён недасягальны, загадкавы для чалавечага розуму.

Адзін можа верыць, а другі не—гэта справа кожнага. Але ставіць рубеж: «Ты не вер! Не смей верыць у Бога!» — гэта проста жудасна! А раптам сапраўды ёсць вышэйшая воля? А ёсць жа нейкая воля ў арганізацыі Сусвету, яна адчуваецца. Якая яна? Наконт гэтага я не асмельваюся гаварыць нічога. Самыя вялікія розумы чалавецтва прызнавалі, што над усім стаіць нейкая сіла ўсемагутная ці Усявышні, яна нясе ў сабе значную долю разумнага, ва ўсякім разе таго, што вызначае меру чалавечай сціпласці, прыстойнасці, нарэшце, сумленнасці ў адносінах да таго, што ёсць мы, абмежаваныя ў сваіх ведах. Любыя рэлігіі, будзем справядлівыя, маюць права на існаванне. Але былі разгромы, расстрэлы і зусім дурныя здзекі з усіх відаў веры — па-мойму, гэта страшэнная памылка. Тым больш, яна ўзмацнілася расстрэламі духавенства, санкцыянiраванымі самім Леніным...

На жаль, ганенне на царкву—на сумленні савецкай дзяржавы. Дарэчы, у многіх камуністычных партыях свету вера не выкаранялася і не выкараняецца. Французскія, італьянскія камуністы, напрыклад, свабодна ходзяць у храмы, гэта зусім не супярэчыць іх палітычным поглядам. Не трэба забываць, што быў жа некалі і хрысціянскі камунізм, няхай нават наіўны... Дарэчы, к канцу жыцця Ленін пачаў усведамляць свае памылкі. У яго разважаннях з'явілася шмат такога, што сведчыла аб глыбокім павароце, ён пачаў разумець: многае зроблена не так, як трэба, і шмат небяспекі пагражае таму, што зроблена. Ён стаў разумець, якая дрэнь яго акружала — усе гэтыя Троцкія, Сталіны, Зіноўевы, Каменевы, Бухарыны, практычна ўсе без выключэння. Я, канешне, не гавару пра ленінскі маладняк, будучых лідэраў, такіх, як Кіраў, Фрунзе, Тухачэўскі, некаторыя іншыя — гэта сапраўды былі людзі чыстыя, сумленныя, вельмі таленавітыя.

А наступныя, Жукаў, напрыклад? Гэта ніякі не палітык, але ў ваеннай справе ён геній, найвялікшае натхненне! Знаходзяцца, аднак, подлыя людзі, якія распачынаюць дыскусіі — а ці быў Жукаў вялікі? Ды якія могуць быць у гэтым сумненні? Каб не ён, мы безумоўна пацярпелі б паражэнне ў найцяжэйшай вайне. Ленінградская, маскоўская, сталінградская, беларуская, берлінская бітвы — гэта ж усё Жукаў! Ён, Ракасоўскі... Так, ён быў грубы, нават жорсткі, але ж ён нікога не расстраляў — лаяўся, здымаў, караў, але не забіваў..

**— У яго чыста рускі, пятроўскі характар...**

— Абсалютна. Я яго добра ведаў, Жукава. Конеў з ім подла абышоўся... Але калі Конеў прайграў Заходні фронт, было назначана следства, і яго маглі расстраляць, як Паўлава. А Жукаў заступіўся: «Дайце яго мне намеснікам камандуючага фронтам», — і накіраваў пад Калінін. Аднак у 57-м, калі Хрушчоў вырашыў зняць Жукава, Конеў «аддзячыў» свайму выратавальніку — дапамог расправіцца з геніяльным палкаводцам...

Ці вось чытаю ў «Дружбе народов» пра Каралёва — а ці быў ён геніяльны? І тут жа аўтар артыкула адказвае: «Не, я так не лічу!» Будзь жа ты пракляты! Ды якое ты маеш права лічыць ці не лічыць? Калі ён — ЗДЗЕЙСНІЎСЯ, вось што важна! Разумееце: здзейсніў-ся! Не судзяць, непаважаныя, пераможцаў.

Далей, аднак, той жа аўтар прасуе Гагарына, з якім я пазнаёміўся адразу пасля палёту, шмат размаўляў з ім і палюбіў гэтага хлопца назаўсёды. Але карціць абгадзіць святыя імёны і падкідваецца подлае пытанне: а ці здольны быў першы касманаўт выйсці з няштатнай сітуацыі? І тут жа аўтар сцвярджае: «Не, ён быў звычайны лётчык»... Ну якая твая справа судзіць чалавека, які першым выйшаў у космас, а значыць — перамог, здзейсніўся! За адно гэта яго імя на такіх скрыжалях гісторыі запісана, што яно будзе жыць да таго часу, пакуль само чалавецтва будзе існаваць. Вы ўявіце: Гагарын ляцеў у капсуле, у вогненнай капсуле, у невядомасць, з абсалютным няведаннем свайго лёсу, бо да гэтага ўжо гарэлі людзі, сабакі, а ён даверыўся Каралёву і паляцеў. І паводзіў сябе вельмі талкова — не псіхаваў, дакладна кантраляваў сітуацыю, хоць у яго там былі вельмі складаныя моманты. Ведаю пра гэта не па чутках — ён мне асабіста расказваў, па слядах свежых уражанняў. Шарык жа круціўся на ўсю моц!

**— Незапланавана круціўся?**

— Не, запланавана, але з непрадбачанымі ўскладненнямі. Рэжым спуску аказаўся вельмі цяжкім, перагрузка была 12-разовай, гэта практычна мяжа—15 ужо гібель.

Калі чытаеш вось такіх падонкаў, якія быццам бы даследуюць нашу гісторыю, прэтэндуюць на нейкае вышэйшае веданне і сваю выключную, незакамплексаваную адукаванасць, дык проста здзіўляешся. Я пражыў даволі многа і дастаткова ведаю, вывучаў гісторыю, як гаворыцца, не па першакрыніцах, а па рукапісах... І вось што павінен сказаць як сведка і ўдзельнік вялікіх падзей: жывучы ў гэтай краіне і жадаючы паскудзіць ёй, думайце, дзікуны, хоць бы пра тое, дзе і як гэта трэба рабіць... Ну паскудзь, калі карціць, калі падмывае, але не на людзей жа!

**— Міхаіл Васільевіч, слухаючы ваш расказ пра тое негатыўнае, што адбывалася ў жыцці партыі і дзяржавы, нельга не задаць пытанне: чаму супраціўленне гэтаму працэсу было нейкае нясмелае, не вельмі прыкметнае, хоць заўсёды і паўсюдна ёсць людзі светлыя, высокія, для якіх праўда, справядлівасць, імкненне да ісціны — вышэй за ўсё... Была фатальная пакорлівасць, выпакутаванае прымірэнне ці нешта іншае?**

— Прымірэння не было, а вось дысцыпліна на мяжы пакорлівасці існавала. У людзей той катэгорыі, да якой адношу сябе я, да ўсяго іншага было яшчэ і пачуццё абавязку, што пераважала астатняе. Мой вышэйшы прынцып, з якім я жыў, жыву і памру, заключаецца ў народнай прымаўцы: родная зямля табе калыска і магіла... Усё жыццё я служыў гэтай зямлі, як салдат, і з тым яе пакіну... Ніякіх іншых мэт, ніякага іншага разумення маіх задач у мяне не было.

Так, я разумеў несправядлівасць, я горка перажываў за няўдачы, за паражэнні. Улічыце, якой школай стала для майго пакалення Вялікая Айчынная з яе сорак першым і іншымі крытычнымі гадамі... Але ніколі — у рэйдах па варожых тылах, у акопе перадавой,— у мяне ніколі не было сумненняў у пастаўленай перада мной задачы: я павінен зрабіць тое, што загадана, інакш можа сарвацца на больш высокім узроўні. Я заўсёды быў упэўнены ў перамозе і ўсё жыццё быў салдатам гэтай краіны, а з часам і гэтай партыі.

Аляксандр УЛІЦЁНАК.

(Працяг будзе).













Фота Э. ЭЛЬКСІНА.

## ТЭЛЕБАЧАННЕ

### 4 жніўня

**Беларускае тэлебачанне**

**8.30.** Раніца рэспублікі.
**8.45.** «Бадзягі Поўначы». Маст. фільм.
**16.30.** Навіны.
**16.35.** Экран дзіцячага фільма. «Пітэр Пэн». 2-я серыя.
**17.45.** «Школа памочнікаў». Мультфільм.
**18.00.** Дак. фільмы «Вешчая птушка», «Крымскі сезон».
**19.00.** Абласныя навіны (Віцебск).
**19.10.** Рэйцінг.
**19.40.** Праблемы беспрацоўя ў Мінску. Прамая лінія.
**20.40.** Калыханка.
**21.00.** Панарама.
**21.30.** Відэасалон. «Хвароба кахання». Маст. фільм. (Францыя).
**23.25.** НІКа.
**23.40.** Паядынак за званне чэмпіёна Еўропы сярод прафесіяналаў па кікбоксінгу.

**І канал. Астанкіна.**

**5.00.** Навіны.
**5.20.** Ранішняя гімнастыка.
**5.30.** Раніца.
**7.50.** «Бюро знаходак». Мультфільм. 2-я серыя.
**8.00.** Навіны.
**8.20.** «Багатыя таксама плачуць».
**9.05.** Дак. фільм «Паломніцтва».
**9.35.** «Свята непаслухмянасці». Мультфільм.
**10.25.** Сюіта з балета С. Пракоф'ева «Золушка».
**11.00.** Навіны (з сурдаперакладам).
**11.25.** На XXV летніх Алімпійскіх гульнях.
**12.55.** Канцэрт Дзяржаўнага ансамбля «Руская Поўнач».
**13.25.** Свет грошай Адама Сміта.
**14.00.** Навіны (з сурдаперакладам).
**14.25.** XXV летнія Алімпійскія гульні.
**16.00.** «Залаты волас». Мультфільм.
**16.15.** «Стартынэйджэр».
**17.00.** Навіны.
**17.25.** Дыялог.
**17.55.** «Багатыя таксама плачуць».
**18.40.** Дзённік XXV летніх Алімпійскіх гульняў.
**18.50.** «Сакрэтныя службы». 5-я серыя «КДБ».
**19.45.** Добрай ночы, малышы!
**20.00.** Навіны.
**20.40.** XXV летнія Алімпійскія гульні. У перапынку **(23.00)** — Навіны.
**0.25.** «Зазірні пад маску». Маст. фільм (Фінляндыя). 1-я серыя.

**Канал «Расія»**

**7.00.** Весткі.
**7.20.** Час дзелавых людзей.
**7.55.** Дак. панарама. «Даліна мрояў».
**8.55.** Вольны час. «Аўто».
**9.10.** Майстры. «У ракурсе — сямейны партрэт».
**9.55.** XXV летнія Алімпійскія гульні. Бокс. Бадмінтон.
**12.55.** Спорт-шоў.
**13.00.** Весткі.
**15.00.** Тэлебіржа.
**15.30.** Мульці-пульці.
**16.00.** Студыя «Рост». «Пятнаццацігадовы капітан».
**16.30.** Там-там-навіны.
**16.45.** Т. Ін. Ка.
**17.00.** «Дом Шарамецьевых». Перадача 2-я.
**17.30.** «Матронін двор».
**18.00.** Парламенцкі веснік.
**18.15.** Сола. Паэт Іўтах Худода.
**18.45.** «Белы колер айца Кіма».
**19.00.** Весткі.
**19.20.** Свята кожны дзень.
**19.30.** XXV летнія Алімпійскія гульні. Конны спорт.
**21.00.** Акно ў Расію.
**22.00.** Весткі.
**22.20.** Спорт-шоў.
**22.25.** Тэлефільм.
**22.55.** XXV летнія Алімпійскія гульні. Бокс. Баскетбол (мужчыны).

### 5 жніўня

**Беларускае тэлебачанне**

**8.30.** Раніца рэспублікі.
**8.45.** «Паром», «Сон». Кароткаметражныя фільмы.
**9.45.** Дзяржаўная мова ў сродках масавай інфармацыі. «Круглы стол» з удзелам пісьменнікаў, журналістаў, грамадскіх дзеячаў.
**16.30.** Навіны.
**16.35.** «Лапік і Воблака». Мультфільм.
**17.35.** Выступае ансамбль народных інструментаў Вілейскай школы мастацтваў.
**18.00.** Дак. фільмы «Цыпло на Баранцавым моры», «Мітусня вакол «Крата», «Урокі музыкі».
**19.00.** Абласныя навіны (Гомель).
**19.10.** Тры кіты. Мастацка-публіцыстычная праграма.
**20.10.** «На рынку ведаў». Да стварэння асацыяцыі недзяржаўных навучальных устаноў у рэспубліцы.
**20.40.** Калыханка.
**21.00.** Панарама.
**21.30.** «Нехта за дзвярыма». Маст. фільм (Балгарыя).
**23.00.** «Як пачаць уласную справу». Анонс перадачы.
**23.05.** НІКа.
**23.20.** Шануйце песні свае. Спявае М. Мялешка з в. Міхалкі Свіслацкага раёна.

**І канал. Астанкіна**

**5.00.** Навіны.
**5.20.** Ранішняя гімнастыка.
**5.30.** Раніца.
**7.50.** «Бюро знаходак». Мультфільм. 3-я серыя.
**8.00.** Навіны.
**8.20.** «Багатыя таксама плачуць».
**9.50.** Мультфільмы «Па шчупаковаму загаду», «Прыгоды Івашкі».
**10.40.** Дак фільм «Гісторыя аднаго кахання».
**11.00.** Навіны (з сурдаперакладам).
**11.25.** На XXV летніх Алімпійскіх гульнях.
**12.55.** Спявае Лідзія Налівайка.
**13.10.** Тэлемікст.
**14.00.** Навіны (з сурдаперакладам).
**14.25.** «Сёння і тады».
**14.45.** XXV летнія Алімпійскія гульні.
**15.55.** «У пошуках капітана Гранта». 5-я серыя «Бен Джойс».
**17.00.** Навіны.
**17.25.** «Прадпрымальнік і бюракраты».
**17.55.** «Багатыя таксама плачуць».
**18.40.** Дзённік XXV летніх Алімпійскіх гульняў.
**18.50.** Дак. фільм «Сакрэтныя службы». 6-я серыя «ЦРУ».
**19.45.** Добрай ночы, малышы!
**20.00.** Навіны.
**20.40.** XXV летнія Алімпійскія гульні. У перапынку **(23.00)** — Навіны.
**0.45.** «Зазірні пад маску». Маст. фільм. 2-я серыя.

**Канал «Расія»**

**7.00.** Весткі.
**7.25.** Час дзелавых людзей.
**7.55.** Тэма з варыяцыямі. «Сустрэча ў Кліне».
**8.20.** Дыялогі дылетантаў.
**8.55.** Арт-абстрэл.
**9.55.** XXV летнія Алімпійскія гульні. Дзённік Алімпіяды. Лёгкая атлетыка. Конны спорт.
**12.55.** Спорт-шоў.
**13.00.** Весткі.
**15.00.** Бізнес — новыя імёны.
**15.15.** Сігнал.
**15.30.** Мульці-пульці. «Цудоўны яблык».
**15.40.** «Дзіцячыя мары» (Францыя) 13-я серыя.
**16.00.** Хрысціянская праграма. Нагорная пропаведзь. «Блажэнныя міратворцы...»
**16.30.** Там-там навіны.
**16.45.** Т. Ін. Ка.
**17.00.** «Далёкі Усход»
**17.45.** М-трэст.
**18.00.** Тварам да Расіі.
**18.15.** XXV летнія Алімпійскія гульні. Лёгкая атлетыка. Конны спорт. Вольная барацьба. У перапынку—Весткі. Свята кожны дзень.
**22.00.** Весткі
**22.20.** Спорт-шоў.
**22.25.** XXV летнія Алімпійскія гульні. Лёгкая атлетыка.

## РАДЫЁ

### 5 жніўня

Апошнія паведамленні: 6.00. 7.00, 10.00, 15.00, 19.45, 23.00.

7.00 — «Радыёфакт». 8.15 — «Вясковыя ростані». 9.15 — нататкі М. Базарэвіча. 10.15 — для дзяцей. «Хвілінкі-весялінкі». 10.35 — П. Місько. «Казадзераза». Перадача 1-я. 11.20 — «Як жывеш, гарадок?». Перадача з пасёлка Радашковічы Маладзечанскага раёна. 12.00 — «Апоўдні». 13.00 — «У абедзенны перапынак». 14.00 — канцэрт. 15.15 — «У свеце аперэты». 16.05 — Я. Пархута. «Акварэлі аднаго лета». 17.00 — эстрадны калейдаскоп. 18.00 — перадачы абласнога радыё 19.00 — гуманітарна-інфармацыйны канал радыёстанцыі «Беларуская маладзёжная». 20.05 — вячэрняя казка 20.25 — «Мост». 22.30 — «Сябрам старадаўняга рамансу». Канцэрт. 23.10 — «Фан-клуб». 0.00 — «Начны канал».

## НАДВОР'Е

### 4 жніўня

Сёння ўдзень па рэспубліцы чакаецца пераменная воблачнасць, па заходняй палавіне месцамі кароткачасовыя дажджы, навальніцы. Тэмпература паветра ў Гродна — 25—27, Мінску, Віцебску — 27—29, Брэсце, Магілёве — 28—30, Гомелі — 29—31 градус цяпла.

У наступныя двое сутак: 5 жніўня кароткачасовыя дажджы, навальніцы, 6-га — у асноўным без ападкаў. Тэмпература паветра 5 жніўня ўначы 12—17, удзень 19—24, па Гомельскай вобласці 28—32 градусы цяпла, 6-га — уначы 7—12, удзень — 21—26 градусаў вышэй нуля.

**Л. САНКЕВІЧ, інжынер-сіноптык.**

ЗАСНАВАЛЬНІКІ: Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

**Першы намеснік галоўнага рэдактара М. МІХАЕВІЧ.**
**Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), А. ЦІХАНОВІЧ, С. ШАЎЦОЎ.**

*НАШ АДРАС: 220041, гор. Мінск, праспект Ф. Скарыны, 77, рэдакцыя газеты «Звязда». ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 32-51-05, аддзела пісьмаў — 32-04-52, 32-41-92, навін —32-60-13, даведкі па рэкламе і аб'явах —32-35-91.*

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі.

Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку».
Тыраж 81.098. Індэкс 63.850. Зак. № 153.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 21.00.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12